# АНТЫФАШЫК



ІНФАРМАЦЫЙНЫ АНТЫФАШЫСТОЎСКІ БЮЛЕТЭНЬ

BELARUSIAN INFORMATION ANTI-FASCIST BULLETIN

№ 2(3), 1999

ГРОЗНЫЙ

Слухай, Вася, а што мы тут робім?

Як што, душара? ПРАДУХІЛЯЕМ ГУМАНІТАРНУЮ КАТАСТРОФУ!

# Фашызм у законе

Нават апошняму дурню ясна, што любая значная падзея ў Расеі заўсёды аддаецца гучным рэхам на сытуацыі ў Беларусі. Варта хаця б прыгадаць, як у 1996 менавіта вайна ў Чачэніі паспрыяла росту антырасейскіх настрояў у беларускім грамадзтве. Новая чачэнская гульня ў вайнушку і ўсё, што зь ёй зьвязана – антыкаўкаская гістэрыя, рост ксэнафобіі і раскручанае па ТБ "паляваньне на тэрарыстаў" – зноў стварылі своеасаблівы інфармацыйны фон, якім на гэты раз не перамінулі скарыстацца беларускія ўлады. Дзякуючы прымітыўнай праекцыі расейскай сытуацыі на беларускую глебу, кіруючы рэжым зараз мае выдатнае алібі для ўзмацненьня свайго кантролю над грамадзкім жыцьцём: пачынаючы з усталяваньня прапускнога рэжыму ва ўнівэрсытэтах ды нарошчваньня міліцэйскай прысутнасьці ў сталіцы і сканчаючы закрыцьцём газэтаў і забаронай гандлю ў мэтро – якая заўгодна рэпрэсіўная мера можа цяпер знайсьці сваё "антытэрарыстычнае" абгрунтаваньне.

Паліцэйскі гвалт – адзін з асноўных элемэнтаў фашызму. Пры гэтым, паняцьце "фашызму" трэба разумець ня толькі (і ня столькі) як дзейнасьць розных фашыстоўскіх сэктаў, кшталту "нэо-нацыкаў", "скіноў", "язычнікаў" і іншых збольшага бяскрыўдных маргіналаў. Карычневая пагроза ўсё яскравей праступае з боку рэспэктабэльных грамадзкіх структураў, адным словам, істэблішмэнту. З гэтага вынікае канцэпт "дзяржаўнага фашызму", ідэальнай мадэльлю панаваньня якога ёсьць ваенны стан або яго сымуляцыя.

Пасьля падзеяў 17 кастрычніка ўжо дайшло да таго, што афіцыйныя СМІ, перадзіраючы лексіку чачэнскай ваеннай кампаніі, назвалі маніфэстантаў "натрэніраванымі баевікамі" і "фундамэнталістамі", а БТ прапанавала сваім верным гледачам тактычныя схемы вулічнага бою. На фоне такой амаль ваеннай рыторыкі амапаўскія "зачысткі" і імянныя гадзіньнікі ў якасьці ўзнагароды параненым мянтам "за праяўленыя доблесьць і гераізм" выглядаюць цалкам лягічным працягам акцыі – вайна ёсьць вайна.



**РАЗДАВІМ ТУЮ ГАДЗІНУ МАЗОЛІСТАЙ НАГОЙ!**

Мэта любой вайны – татальнае зьнішчэньне ворага, да якіх прапаганда адносіць усіх, хто не пасуе крытэрыям лаяльнага зачуханага абывацéля. Чытаючы «Антыфашык», ты можаш быць упэўненым: у катэгорыю «ворагаў» ты ўжо трапіў. Таму ў нас няма іншага выйсьця акрамя супраціву дзяржаўнаму прыгнёту ва ўсіх ягоных праявах. Канкрэтныя формы барацьбы могуць быць выпрацаваныя толькі ў рамках паўсядзённай практыкі. Гэта практыка павінна арыентавацца не на выкрыцьцё асобных фігураў рэжыму, а на крытыку ўсёй дзяржавы як крыніцы фашызацыі грамадзтва.

Кожны павінен памятаць:

***УСТАЛЯВАНЬНЕ ФАШЫСТОЎСКАГА РЭЖЫМУ Ў БЕЛАРУСІ НЕ АЗНАЧАЕ ЗАХОПУ "БРЫТАГАЛОВЫМІ" МІНІСТЭРСТВА ЎНУТРАНЫХ СПРАВАЎ, АЛЕ НААДВАРОТ, ЗАХОП МУСам КРАІНЫ.***

## Раздавім фашысцкую гадзіну-3

23 кастрычніка ў Менску беларуская панк-сцэна ў чарговы раз наступіла сваім ботам на шыю фашысцкай пачвары: у клюбе МТЗ адбыўся фэстываль "Раздавім фашысцкую гадзіну-3" пад "дахам" антыпартыйнай групы "Чырвоны Жонд" і часопіса "Антыфашык".

Першыя падобныя канцэрты мелі месца ў 1996 і 1997, і нават нягледзячы на абмежаванасьць сродкаў і рэклямы, набылі гучны рэзананс. Сёньня, калі карычневыя засранцы намагаюцца падпарадкаваць маладзёвую субкультуру, падобныя фэстывалі – сымбаль гатоўнасьці моладзі даць у рыла фашыкам.

Зразумела, зь нецярплівасьцю чакаўся "візыт" брытагаловых імбіцылаў, тым больш, што ў гэты дзень на "Дынама" быў вялікі футбол. Па гораду мусіраваліся чуткі, быццам на сэйшн жадаюць завітаць пад 300 скінаў. Прагрэсіўная моладзь пачула гэтую навіну зь вялікім энтузіязмам: пэрспэктыва настукаць у табло нацыкам натхняла нават 15-гадовых дзяўчынак, ня кажучы ўжо пра алдовых антыфа, якія зьехаліся на фэст з усіх куткоў краіны. Усё гэта абяцала сочнае мачылава. Сапраўды, што можа быць круцей як заспэрмачыць фашыка з прышчавым чэрапам пад шалёныя рытмы хардкору, напампаваўшыся перад гэтым як сьлед півасікам.

На гэты раз "гадзіну давілі" гурты HATE TO STATE (Менск), СОНЦА МАО (Менск), ПРАВАКАЦЫЯ (Менск), DEVIATION (Гародня), БОНДЗИНСКИЙ (Петраград). Усе вышэй згаданыя беларускія гурты бралі ўдзел у папярэдніх "гадзкіх давілаўках" (акрамя хіба што БОНДЗИНСКОГО). Галоўным адрозьненьнем гэтага фэсту ад чмошных музычных шоў зьяўляецца культурны нонканфармізм і рэвалюцыйная сацыяльная накіраванасьць удзельнікаў.

Канцэрт адкрыла ПРАВАКАЦЫЯ на чале з Алежкам (вядомы ўсёй краіне як пэрсанаж фільму "Дети лжи"). Паўгадзіны крыку, сацыяльназначымага шуму і брутальнага слэму

каля сцэны... Вакаліст, чувак у пінжаку з гальштукам, корчыў рожы віртуальным фашыстам і выплёўваў злосны панк у манеры позьняга дэкадансу, што ў нечым нагадвала Iggy Pop.

Нарэшце, пасьля амаль гадавога запою вярнуліся на канцэртную сцэну СОНЦА МАО з новай праграмай "Pogo на барыкадах". Новыя песьні, як і старыя, выконваліся ў стылі рэд паўэр хард-кор. Акрамя энэргічнага басу (Сева) запомнілася правакацыйная выхадка саліста Юры, які перадаў прывітаньне (у дзяржаўнай установе!) удзельнікам беспарадкаў 17 кастрычніка і прачытаў пад гітарныя выябоны Фэлікса рэцэпт "кактэйлю Молатава".

HATE TO STATE грае краст-панк з мужчынскім і жаночым вакалам. "Все, что я вижу, я ненавижу" – вось дэвіз, які коратка характарызуе пазыцыю гурта. Наэлектрызаваныя нянавісьцю да дзяржавы фанаты скандыравалі "Правільна, Мао!", "Дай ім, Мао!". Шкада, што ў гэтыя хвіліны побач не было скінападобных выпіздняў. Ім бы, як міленькім, хуценька настучалі па галоўках.

Наступнымі выскачылі БОНДЗИНСКИЙ – адзін з самых арыгінальных ленінградзкіх гуртоў. Іхняя музыка, якую яны самі называюць "пахта-кор", спалучае панк, трэш і джаз. Супэрбізоны! Песьня "Дай нам денег – будет рок-н-ролл", выконвалася на біс. Публіка вар'яцела.

DEVIATION – анарха-панкі з Гародні. Заля напоўнілася звыш-экстрэмальнымі тэкстамі, пачуўшы якія дырэктар МТЗ вырашыў скараціць час і выдзернуў з пульта ўсе шнуры. Але і адпушчанага часу было дастаткова каб завесьці маладняк на пасьляканцэртныя пошукі і аблавы на нацыкаў. Гарланячы супэр-хіт DEVIATION "Ёбні фашысцкай гадзіне ў рыла" натоўпы ламануліся ў цэнтар у месцы традыцыйнага збору аліграфрэнаў-скінхэдаў, аднак тых і сьлед прастыў.

Вядома, шкада, што брыта-галовыя не прыйшлі. Што ж, сустрэнемся ў наступным годзе на "Фашысцкай Гадзіне – 4".

Масіруйце дупы, лысыя ўроды!!! Па вас прыйдуць...

# У кіпцюрах АМАПу

Калёна дэманстрантаў прарывае міліцэйскі кардон... Натоўп жорстка зьбівае безабаронных міліцыянтаў... Малойчыкі закідваюць камянямі супрацоўнікаў АМАП... Міліцыянты сьціпла адводзяць у бок сваіх параненых кульгавых таварышаў... Байцы спэцназу на шпітальнай койцы... «Ступенечкі...»

Што можа выклікаць такі камэнтар падзеяў 17 кастрычніка ў шараговага пэнсіянэра, як не сьлязу і праведны гнеў да зачыншчыкаў беспарадкаў. І ўсё гэта ў перамешку з заявамі, нібыта нашыя органы правапарадку дзейнічалі мякка і ў рамках закону ў параўнаньні з тым, што вытварае паліцыя на Захадзе.

Энтузіязм, зь якім беларускія "сілы аховы парадку" трубяць аб сваёй мяккасьці і "пяшчотнасьці" падчас маніфэстацыі выклікае гістэрычны сьмех ва ўсякага, хто хоць раз пабываў у міліцэйскім пастарунку. Тое, што "нявінныя ахвяры дэманстрантаў" вытваралі з затрыманымі можа быць ахарактарызавана ня йначай, як сапраўднае гестапа, дастойнае лепшых пінучэтаўскіх традыцыяў.

Схема клясычнага беларускага хапуна зьяўляецца арганічным сынтэзам мэтадаў чылійскай паліцыі часоў Аўгуста Пінахэта і савецкай плянавай эканомікі. Яшчэ да акцыі менскія апарнякі прыкладна вызначаюць колькасьць будучых затрыманьняў. З пачаткам маніфэстацыі стартуе першы этап практычнага выкананьня пляну. Ён ёсьць плодам мэтанакіраванай дзейнасьці "тихарей", якія мэтадам навуковага тыку абіраюць сярод дэманстрантаў тых, каму загадзя наканаваная роля "правапарушальнікаў" і "баевікоў". Ахвяры яшчэ ня ведаюць, што як толькі яны спакойна дайдуць да малалюднай вуліцы, ім прыйдзецца апынуцца ў машыне без апазнавальных знакаў у кампаніі з тройкай кланіраваных інкубусаў у скураных куртках. Як і ў 37-м годзе, выпадковых сьведкаў іхняя "пагрузка" зусім ня зьдзівіць.



Другі этап хапуна завецца проста і надзвычай цынічна – "зачыстка". Гобліны з АМАП ачапляюць нейкі раён і пачынаюць аблаву. Тых, хто трапляе ў іх лапы звыш пляну, проста зьбіваюць і пакідаюць. Вядома ж, пытацца пра дакумэнты ў супрацоўніка МУС пры такім "затрыманьні" проста складана і небясьпечна для жыцьця.

Далей, вы трапляецце ў звычайны РАУС, дзе вы аўтаматычна пазбаўляецеся ўсіх чалавечых правоў і апынаецеся ў чорнай дзірцы, у якой час перастае існаваць. Як толькі скупая фантазія сьледчага ўвасобіцца ў пратаколе, пачынаецца самае цікавае: сустрэча з замзагадчыка аддзяленьня «гестапа» – мясцовай рэінкарнацыяй Мюллера. З садысцкай усьмешкай на твары вам могуць распавесьці аб тым, як і чым вас будуць гвалтаваць ці нешта падобнае, але хутчэй за ўсё вам пашанцуе і вы проста атрымаеце лёгкіх ненавязьлівых пізьдзюлей, якія аргумэнтуюцца сваё дзеяньні абаронай закону ад такіх, як ты.

Апагеем «праваахоўнай дзейнасьці» зьяўляецца дастаўка арыштантаў на Акрэсьціна ў амапаўскім аўтобусе. Дзяржава, за вашыя ж падаткі, забясьпечвае вам павышаны камфорт: ляжачыя месцы на падлозе, з паслугамі групы высокапрафэсійных садамасажыстаў у каваных берцах і з дубіналамі напагатове. Так яны «абараняюць» нас...

Але хто абароніць нас ад іх? Ніхто... АКРАМЯ НАС САМІХ!

*Прапануем вашай увазе ў рэфератыўным выглядзе частку дакладаў, прачытаных у рамках сэмінару «X-files югаслаўскага канфлікту», агрганізаванага антыпартыйнай групай «Чырвоны Жонд». Спадзяемся, што прыведзеная ніжэй інфармацыя дапаможа вам па новаму зірнуць на класавыя вытокі міжнацыянальных канфліктаў, і вызначыць ролю палітычнага істэблішмэнту ў распальванні ксэнафобіі.*

# ЮГАСЛАВІЯ: Ху із хуй?

*(матэрыялы сэмінару)*

## Гуманітарны мілітарызм

У дачыненьні да дзеяньняў ЗША- НАТА ў Косаве прыхільнікі альянсу часьцяком выкарыстоўваюць тэрмін "гуманітарная інтэрвэнцыя". Права на прымяненьне сілы ў гуманітарных мэтах яны абгрунтоўваюць неабходнасьцю прадухіляць "гуманітарныя катастрофы" падобныя той, зь якой сьвет сутыкнуўся ў Югаславіі.

Бясспрэчна, што ў сувязі з сытуацыяй у Косаве мы маглі казаць аб гуманітарнай катастрофе, выкліканай дзеяньнямі югаслаўскіх арміі і паліцыі. Галоўнымі ахвярамі зьяўляліся албанцы, якія складаюць 90 адсоткаў насельніцтва на гэтай тэрыторыі. Ідзе размова прыкладна аб 2000 загінуўшых і аб сотнях тысячаў уцекачоў. У падобных выпадках у зьнешніх сілаў сапраўды ёсьць толькі тры выбары:

1. Спрыяць эскаляцыі катастрофы.
2. Нічога не рабіць
3. Імкнуцца прадухіліць катастрофу

Што датычыцца Косава, то натаўскія пагрозы, а потым і ўжыцьцё сілы, як і прадказвалася, прывялі да эскаляцыі насільля з боку сербскіх арміі і паліцыі. Камандуючы войскамі НАТА генэрал Кларк назваў "цалкам прадказальным" той факт, што насільле з боку югаслаўскіх уладаў толькі ўзмацніцца пасьля пачатку натаўскіх бамбардзіровак, як яно і атрымалася.

Тэрор упершыню дасягнуў сталіцы Косава Прыштыны, зруйнавана мноства вёсак, павялічыўся паток бежанцаў - і ўсё гэта "цалкам прадказальнае" наступства ўжыцьця сілы. Такім чынам акцыя НАТА ў Косава зьявілася толькі яшчэ адным прыкладам, які ілюструе (1): спрыяць эскаляцыі насілля пад выглядам (3): прадухіленьня "гуманітарнай катастрофы"




Знайсьці прыклады, якія ілюструюць пункт (3) таксама вельмі проста, але толькі калі верыць афіцыйнай прапагандзе. Возьмем, напрыклад, "гуманітарную інтэрвэнцыю" Японіі ў Манчжурыю, захоп Эфіопіі войскамі Мусаліні, альбо гітлераўскую акупацыю раёну Судэтаў у Чэхаславакіі. Усе гэтыя дзеяньні суправаджаліся ўзьнёслай гуманітарнай рыторыкай. Гэтак, Японія зьбіралася вызваліць народ Манчжуры ад "кітайскіх бандытаў"; Мусаліні заявіў аб высакароднай мэце вызваліць тысячы рабоў, калі прадпрымаў свой "асьветніцкі паход" у Эфіопію; Гітлер абвесьціў аб намеры Нямеччыны пакончыць з этнічным уціскам у імя "захаваньня нацыянальнай самабытнасьці нямецкага і чэскага народаў" пры дапамозе ваеннай інтэрвэнцыі.

Такім чынам, тут сама напрошваецца аналёгія з 30-мі гадамі, толькі сёньня на месца тагачасных Нямеччыны, Італіі і Японіі трэба паставіць ЗША і іх сатэлітаў па блёку НАТА. Стварыўшы з Албаніі, а потым і з Косава свой пратэктарат, ЗША і НАТА фактычна акупавалі гэты рэгіён пад сьцягам "гуманітарнай інтэрвэнцыі".

Права на гуманітарную інтэрвэнцыю відавочна будзе ўсё часьцей узгадвацца ў міжнародных зносінах. Пасьля заканчэньня халоднай вайны залежнасьць амэрыканскай эканомікі ад ваеннага сэктару прывяла да таго, што ЗША пачалі мець патрэбу ў такім новым, "гуманітарным" абгрунтаваньні сваіх узрастаючых ваенных расходаў. Іншымі словамі, калі б не было Косава знайшоўся б іншы повад і іншы вораг, бо парушэньні правоў чалавека сапраўды пакуль што зьяўляюцца настолькі звычайнай зьявай. Ужо дзякуючы майстэрскай рыторыцы можна апраўдаць ужываньне сілы супраць практычна любой краіне.

## Гоп-стоп па-сербску

На старонках заходняй прэсы часта ўзьнікае тэма сербскага нацыяналізму і фашызму, які нібыта вынікае з дыктатарскага стылю кіраваньня Мілошавіча. Такі пасыл можна ахарактарызаваць як прымітывізацыю праблемы фашызму наогул.

Уздым фашысцкіх настрояў сярод сербаў збольшага трэба разглядаць як сьледзтва трансфармацыі грамадзкай думкі ў рамках пасьляваеннага эканамічнага развіцьця Югаславіі.

Мадэрнізацыя ў краіне праходзіла ў спэцыфічных умовах і стварыла эканамічна-мэнтальную базу для сучасных нацыяналістычных настрояў. Спэцыфіка Сербіі палягае ў тым, што развіцьцё адбывалася тут у хуткім працэсе пераходу аграрнага грамадзтва ў сучаснае індустрыяльнае.

Адразу пасьля другой сусьветнай вайны каля 70 адсоткаў сербскага насельніцтва жыла ў вёсцы. Хуткая індустрыялізацыя прывяла да таго, што каля 70% сялянаў перасяляліся ў гарадзкую інфраструктуру вялікага гораду, галоўным чынам Бялграду.

Варта адзначыць, што падчас індустрыялізацыі стаўка рабілася на буйныя прадпрыемствы энэргетыкі і цяжкой прамысловасьці. Як правіла гэта насіла ачаговы характар. Іншымі словамі каля Бялграду ўзьнікалі цэлыя новыя гарады-спадарожнікі, кшталту нашых спальных раёнаў. Гэтыя новыя індустрыяльныя прыгарады функцыянавалі як закрытыя сацыяльныя зоны і былі вельмі абмежаванымі ў тым, што датычыцца новых культурных кантактаў.

Калі цэнтар гораду яшчэ хоць троху быў мадэрнізаваны, то ягоныя раёны новабудоўляў засталіся страшна недаразьвітымі. Тут аселі перасяленцы зь вёсак, па іншаму ліміта. Лімітчыкі былі павінны выконваць цяжкую і малааплачвальную працу на буйных прадпрыемствах. Зрабіць нейкую кар'еру ім таксама не сьвяціла. Адсюль атмасфэра сацыяльнага і крымінальнага напружаньня, якая панавала ў спальных кварталах. У першую чаргу была незадаволеная сваім сацыяльна-культурным становішчам моладзь. Яны не атрымалі ад пераезду ў горад усіх тых благаў, аб якіх марылі ў вёсках. Ня дзіўна, што ў іх нараджалася падсьвядомая агрэсія да ўсяго навакольнага сьвету, што як правіла набывала формы злачыннасьці або проста хуліганства кшталту наездаў нашых гопнікаў. Нездарма. былы мэр

Бялграда Багданавіч нават параўноўваў выбух сельскай міграцыі ў сталіцу з нашэсьцем барбараў на Рым. Калі ў 70-80-я гады гэтае пытаньне вырашалася за кошт масавага выезду на працу ў Эўропу, то ў другой палове 80-ых такой каналізацыі сацыяльных пытаньняў больш не было. Акрамя таго, якраз у гэты час пачаўся эканамічны крызыс сацыялізму, правакуючы дэрэгуляцыі эканомікі і шалёную маргіналізацыю жыцьця.

Якім чынам павінны былі рэагаваць простыя людзі, якія захавалі ў мазгах аксіёмы традыцыйнай сялянскай сьвядомасьці, і сярод іншага – махровую ксэнафобію. Зразумела, яны пачалі перакладваць адказнасьць за хуёвае жыцьцё на тых, хто разбурыў Вялікую дзяржаву. Галоўным зьнешнім фактарам стала прапаганда з боку былых камунсітычных босаў кшталту экс-старшыні бялгрдзкага Гаркаму партыі Мілошавіча. Апаратчыкі, якім пагражала страта ўлады, кампэнсавалі сьмерць камуністычнай ідэалёгіі за кошт нацыяналістычнай рыторыкі. Гэта ў сваю чаргу не магло скончыцца нічым іншым як канфліктамі з харвэтамі, басьнійцамі і, нарэшце, з касаварамі.

Адсюль выснова. Не зьмяніўшы радыкальным чынам сацыяльна-эканамічную сытуацыю ў краіне, ніякая дэмакратыя ня вынішчыць перадумовы нараджэньня фашызму. Беручы пад увагу адносае падабенства працэсаў разьвіцьця Сербіі і Беларусі, тое ж самае датычыцца і нас.

## UCK: шырма для патрыётаў

Усялякі раз, калі гаворка заходзіць пра Вызваленчую Армію Косава (UCK), мы нявольна апынаемся ў палоне супярэчлівых ацэнак і стэрэатыпаў, якія ва ўмовах ідэалягічнай вайны абрынаюцца на нашага абываценя, нібы амэрыканскія "тамагаўкі" на югаслаўскія гарады. Тым ня менш, разглядаючы албанцаў толькі як "пятую калёну на славянскай зямлі", а UCK як "натаўскіх наймітаў", або наадварот, як прасякнутага гераізмам нацыянальна-вызвольнага руху, мы нібыта становімся ўдзельнікамі гульні, правілы гульні якой цьмяна ўяўляем. А між тым тое, што называюць цяпер Вызвольнай Арміяй Косава, сваім існаваньнем абавязанае фактарам, якія маюць мала агульнага са славутым "нацыянальным пытаньнем".

Гэтак, напрыклад мала хто ведае, што да нядаўнега часу албанскія кланы Косава, якія потым склалі аснову UCK, добра ўжываліся зь сербскімі калегамі. Напрыклад, у 1992 падчас эмбарга супраць Югаславіі сербскія нацыяналісты зусім ня грэбавалі набываць у албанскіх кантрабандыстаў зброю і паліва, мала клапоцячыся пра нацыянальную і рэлігійную прыналежнасьць сваіх кампаньёнаў. У лік кліентаў будучай UCK уваходзіў і сумнавядомы Аркан, замяшаны пазьней у "этнічных чыстках" тых жа албанцаў.

Албанцы дапамагалі таксама славянскім наркартэлям наварывацца. Вядома ж, не бясплатна. Да косаўскага канфлікту Албанія зьяўлялася адзіным выйсьцем да мора для Македоніі, а адпаведна і адзіным бясьпечным калідорам для кантрабанды наркотыкаў. Каб забясьпечыць іх транзыт, славянскія кланы вымушаныя былі карыстацца паслугамі косаўскай мафіі, якая й займалася перапраўкай небясьпечнага зельля ў Албанію, забіраючы гэткім чынам ільвіную долю даходаў. Менавіта гэта і не задавальняла картэлі зь Сербіі. Тэрмінова спатрэбілася ажывіць "нацыянальнае пытаньне".

Атрымаўшы поўны кантроль над прыбытковым наркабізнэсам, сербы плянавалі наўпрост зьвязацца з наркадзяльцамі ў самой Албаніі. Калі б гэтыя пляны былі рэалізаваныя, то наўрад ці атрымалася б пазьбегнуць канфлікту між уласна албанскімі мафіёзнымі кланамі і іх косаўскімі "братамі", цесна зьвязанымі з UCK. Адсюль і спробы камандаваньня баевікоў узяць пад свой кантроль усю тэрыторыю Албаніі пры падтрымцы Вашынгтону, у якога тут свае інтарэсы. Парадаксальна, але натаўскія міратворцы як раз і дапамаглі пазьбегнуць канфлікту і захаваць статус-кво ў наркагандлі.

Відаць, нашым тупагаловым адэптам "рамантычнага нацыяналізму" варта было б добра падумаць, перш чым ехаць лабызацца зь лідэрам сербскіх фашыстаў Шэшэлем або ціха спачуваць "героям" з UCK.

## Як падставілі фанатаў загрэбскага "Дынама"

Чаго каштуюць моладзі прагоны фашыстоўскіх палітыкаў, ілюструе гісторыя тусоўкі фанатаў загрэбскага клюбу "Дынама", вядомага сёньня пад назвай "Кроацыя". Клюб "Дынама" адносіўся да лідэраў харвацкага футболу і лічыўся ў саюзным югаслаўскім турніры галоўным канкурэнтам бялградзкіх "Црвена Звезда" і "Партызан".




З нарастаньнем унутранага крызысу ў Югаславіі і ростам міжнацыянальных супярэчнасьцяў пачалася бурная палітызацыя тыфозі. З гэтага часу гасілава на трыбунах пачало віртуальна нагадваць эпізоды будучай вайны ў Босьніі. Асабліва крывавымі былі сутычкі балельшчыкаў напрыканцы 80-ых, калі сярод фанаў "Дынама" былі нават забітыя. Харвацкая нацыяналістычная прэса была галоўным завадзілам гвалту на трыбунах. Яна называла ультрасаў нацыянальнымі героямі і нават абвесьціла падпіску на збор сродкаў для помніка фанам "Дынама", якія трагічна пайшлі з жыцьця пасьля панажоўшчыны з сымпатыкамі "Цвернай Звезды".

"Вы былі аднымі зь першых, хто пачаў сьвятую справу адраджэньня харвацкай нацыі", – пісаў тады на старонках харвацкай нацыяналістычнай газэты нейкі прадажны краснабай. Ня дзіўна, што шмат хто з фанаў "Дынама" запісаўся валанцёрам у харвацкую армію і нават паклаў галаву на басьнійскім фронце.

Не пасьпела закончыцца вайна, як прэзыдэнт Харватыі Туджман аднабакова забараніў назву "Дынама" і перайменаваў клюб у "Кроацыю". Для фанаў загрэбскага клюбу гэта быў сапраўдны шок. Адпаведна фанатаўскім раскладам адмова ад старой назвы азначала дабравольную капітуляцыю.

Дэманстрацыі пратэсту ультрас супраць перайменаваньня былі разагнаныя зь няменшай жосткасьцю, як калісьці гэта рабіла югаслаўская міліцыя з харвацкімі сэпаратыстамі. Супрацьстаяньне працягваецца да сёньняшняга дня.

І гэта не адзіны ў гісторыі выпадак, калі фаны становяцца закладнікамі ў чужой палітычнай гульні. Калі патрэба ў стрыжаных малойчыках прападае, ім папросту даюць пад зад.

## Поп-культура і ейная роля ў рэстаўрацыі фашызму ў Югаславіі

Некалі ў часы Тыта Югаславія мела самы разьвіты музычны рынак у параўнаньні зь іншымі "сацыялістычнымі" краінамі. Зоркі эстрады без праблемаў прадавалі мільённымі тыражамі свае дыскі і разам з тым прапаноўвалі спажыўцам мадэлі самаідэнтыфікацыі ў рамках пануючай ідэалёгіі, дзе не было месца нацыяналізму. Ва ўмовах адзінага рынку нацыянальныя музычныя культуры існавалі ў асноўным ў якасьці бяскрыўднага фальклёру.

Тым ня менш ужо ў 70-80-я гады разам з агульным ростам спажываньня ў краіне зьявілася патрэба для забесьпячэньня густаў на той час маргінальнага "нацыянальна скіраванага" спажыўца. У выніку ў Югаславію пачалі кантрабандай дастаўляцца запісы з "патрыятычнымі" песьнямі часоў другой сусьветнай вайны. Гэта былі фашыстоўскія песьні і маршы харвацкіх усташаў і сербскіх чэтнікаў – г.зв. "нацыяналістычны фольк". Яго вяртаньне стала першым сымптомам будучага падзеньня бастыёну антыфашысцкай міталегіі, узьведзенага Тыта.

Але сапраўднае адраджэньне фашызму ў поп-культуры пачалося толькі пасьля распаду Югаславіі. Незалежныя дзяржавы, якія тут узьніклі на пачатку 90-ых гадоў мелі значна меншыя рынкі і некалі адзіная югаслаўская поп-сцэна апынулася ў сытуацыі, калі перад выканаўцамі паўстала праблема збыту іхнай музычнай прадукцыі. Вайна, якая пачалася ў 1991, паставіла выжываньне мясцовых музычных рынкаў у залежнасьць ад новай пануючай ідэалёгіі – нацыяналізму.

Харватыя можа служыць найбольш яркім прыкладам. З самага пачатку 90-ых, гадоў амаль уся сербская музыка тут была неафіцыйна забароненай, а на радыё-хвалях панавала ура-патрыятычная тэматыка. У Сербіі палітыка ўладаў была іншая: радыёстанцыі круцілі любую музыку за выключэньнем песень артыстаў, хоць нейкім чынам зьвязаных з харвацкай, славенскай ці басьнійскай незалежнасьцю. У адным сытуацыя ў Сербіі і Харватыі была падобнай: адмаўленьне агульнай культурнай спадчыны прывяло да рэабілітацыі ў абедзьвюх краінах нацыяналістычных мітаў і вобразаў часоў другой сусьветнай вайны.




**Бялград. Канцэрт «Rock around the bunker»**

Трэба адзначыць, што вяртаньне "нацыяналістычнага фольку" ў музыцы не праходзіла ў нязьменным выглядзе, але ў асноўным у форме рэміксаў у стылі techno, каб зрабіць яго прывабным для маладога слухача. У Сербіі зьяўляецца кактэйль традыцыйнага фальклёру з г.зв. turbo-folk – спалучэньнем techno, trance і funk, які круцяць на шматлікіх "фолькатэках". У Харватыі дынарскі і герцагавінскі фальклёр спалучаюць з hard-rock, heavy metal і сынтэзатарнай музыкай. З гэтай музыкай, ва ўмовах ваеннай гістэрыі нараджаецца і нацыяналістычная поп-культура.

Уся шоў-індустрыя працуе на стварэньне прывабнага, рамантычнага вобразу вайны. У Сербіі недахоп тавараў, беспрацоўе, панаваньне крымiналу кампэнсуюцца ксэнафобіяй і іміджам "новага серба" – каротка стрыжанага крутога хлопца зь цяжкім позіркам і вялізным залатым ланцугом на шыі, які вабіць час на фолькатэках разам са сваімі "спансіраванымі" цёлкамі, апранутымі ў дарагое футра. Перш за ўсё гэты імідж увасабляе Аркан – вядомы ваенны злачынца, у свой час камандуючы сербскім апалчэньнем у Босьніі, а зараз адзін з самых багатых людзей у Югаславіі. Менавіта ён у 1996 ажаніўся з папулярнай сербскай сьпявачкай Сьвятланай Чэчай Вялічкавіч. На іх вясельлі прысутнічала ажно паўтары тысячы гасьцей. Відэакасэта з запісам вясельнага канцэрту стала хітом нумар адзін у Сербіі, як бы ўяўляючы сабой новы лёзунг "бо-монд і армія адзіны".

У гэты ж сама час, у варожым да Сербіі стане, Харватыі, моладзь стала таксама аб'ектам ідэалягічнай апрацоўкі з боку шоў-індустрыі, якая зрабіла шмат, каб прыўнесьці ваенную рамантыку ў маладзёвую культуру. Відэа-кліпы такіх выканаўцаў як Марка Перкавіч часта паказвалі сьпевака ў камуфляжы на фоне ваеннай тэхнікі. У адным з кліпаў Перкавіча гучаць словы: "Дзеля Аніцы і кубка віна/ Я падпалю Крайну/ На шляху да Кніна/ Я спалю два-тры сербскіх камандных пункты. Прысьпеў: Я прыйшоў сюды ня проста так...".

Карацей кажучы, калі "новы серб", пакутуючы ад міжнароднай ізаляцыі і паразаў на фронце, знаходзіць сябе ў вобразе барыгі-спэкулянта зброяй, то "новы харват" абавязкова павінен касіць пад Рэмба – пса вайны. Абодва гэтыя вобразы цалкам адпавядалі інтарэсам Туджмана (Харватыя) і Мілошавіча (Сербія), якія потым выкарыстоўвалі поп-музыку ў мэтах нацыяналістычнай прапаганды падчас вайны ў Босьніі.

Але ў Босьніі ўсё атрымалася зусім наадварот. Тая ж самая касэта з Чэчай і Арканам стала вельмі папулярнай менавіта сярод ворагаў Сербіі – басьнійцаў-мусульманаў. У той час як Аркан праводзіў этнічныя чысткі сярод басьнійскага насельніцтва, яго жонку з замілаваньнем слухалі нават басьнійскія салдаты. Для іх яна засталася той самай Чэчай, якую некалі слухала ўся Югаславія. Адсутнасьць у Босьніі падставаў для фармiраваньня больш-менш незалежнага (ад Сербіі і Харватыі) музычнага рынку прывяла да адноснай слабасьці і прымітыўнасьці нацыяналістычнай прапаганды ў яе мусульманскай частцы.

Вышэйсказанае толькі яшчэ раз пацьвярджае рост ролі поп-культуры ў навязваньні моладзі афіцыйнай ідэалёгіі праз ужо гатовыя ўнівэрсальныя архетыпы традыцыйнага грамадзтва. Таму ня трэба выпускаць з поля зроку, што ў справе змаганьня з рэжымам трэба таксама абавязкова выкарыстоўваць інструмэнтарый поп-культуры. Прыклады гэтаму ўжо ёсьць.

# “Антыфашызм ня пройдзе”

*Менавіта гэтак можна ахарактарызаваць пазыцыю дзяржаўных органаў, аналізуючы падборку апошніх навінаў антыфашыстоўскага супрацiву ў Цэнтральнай Эўропе. І сапраўды, што можа прыйсьці ў галаву чалавеку з мазгамі, калі паліцыянт абараняе ад “хуліганаў” адкравенна нацысцкую дэманстрацыю ў Празе, або калі “дэмакратычны” польскі суд адпраўляе за краты антыфашыстаў.*

## Чэхія

Дасюль не завяршылася судовая справа супраць некалькіх чэскіх анархістаў, якім шыюць арганізацыю й актыўны ўдзел у масавых беспарадках (пагадзіцеся, знаёмая фармулёўка), якія адбыліся ў Празе 1 мая гэтага году. Калі нехта іявіць сабе, што анархі выйшлі на вуліцы з шарыкамі й транспарантамі “Мир. Труд. Май.”, то ён памыляецца.

Справа ў тым, што на праскія вуліцы ў гэты дзень выйшлі нацысты й брытагаловыя падонкі, але далёка не з нагоды Дня салідарнасьці працоўных. Замовіўшы абсалютна легальна сваю дэманстрацыю і мітынг, нацыкі яўна правакавалі прагрэсіўнае грамадзтва чэскай сталіцы на разборы. Правакацыя палягала яшчэ ў тым, што месцам правядзеньня свайго шабашу фашысты выбралі Стралецкі востраў – традыцыйнае месца маёўкі анархістаў.

У антыфашыстаў, вядома, ня ўзьнікла аніякага сумневу: нацугі мусяць адгрэсьці пізьдзюлей! Аднак проста толькі казка кажацца. Шматтысячнай анархісцкай братве, што прыйшла кардынальна разабрацца з выкармышамі Гітлера, перагарадзіла конная паліцыя і спэцназ. Аказалася, што паліцыя ахоўвае нацыстоўскую дэманстрацыю як нібыта дазволеную і абсалютна законную!

З такім станам рэчаў не пагодзіцца ніводны сумленны чалавек, ня тое што анархіст. Паліцыю пакацілі. У паліцыю паляцелі камяні й кактэйлі Молатава. Завязалася крывавая сеча, якая цягнулася некалькі гадзінаў запар і ахапіла амаль увесь турыстычны цэнтар сталіцы Чэхіі. Паліцыі прыйшлося выклікаць падмогу, каб расьсеяць разьюшаны натоўп антыфашыстаў.

Вынік баталіі: некалькі паліцаеў апынуліся ў рэанімацыі. На затрыманых удзельнікаў беспарадкаў завялі крымінальныя справы. Аднак паліцыя не засталася безнаказанай. На наступны дзень адразу 9 праваабарончых рухаў падалі на паліцыю ў суд. З крытыкай паводзінаў мянтоў выступіла большасьць СМІ (аднаму журналісту падчас “навядзеньня парадку” паламалі рэбры).

У такой сытуацыі, вядома, паліцыя залупацца ня стала, і крыміналкі падвісьлі ў паветры. Аднак пра закрыцьцё справаў ніхто не памышляе. Відаць, сабакі чакаюць свайго часу.

## Польшча

Польшча – краіна, якая славіцца як сваімі антыфашыстоўскімі акцыямі, гэтак і судовымі расправамі над антыфашыстамі. Некалькі чалавек ужо сядзяць за антынацысцкія акты “простага дзеяньня”. А цяпер да іх далучыліся яшчэ два антыфа-вязьні.

На днях завершыліся два судовыя працэсы над антыфашыстамі, якім былі вынесеныя абвінавачаньні ў “нанясеньні цялесных пашкоджаньняў” некалькім нацыкам. Адзін з асуджаных Клаўдыюш Глікіх. У 1991 ён вяртаўся позна ўвечары зь бібліятэкі, калі з-за вугла выскачылі тры падпітыя нацыкі і спыталі, зь якога Клаўдыюш раёну. Завязалася бойка.

Глупыя фашысты яшчэ ня ведалі, што ў нашага героя чорны пояс по каратэ. Як вынік – пераламаныя ногі, сківіцы, рукі і копчыкі брытагаловых. Калі лысыя “арыі” апрытомелі, то адразу пабеглі скардзіцца паліцыі. Клаўдыюшу прышылі бандытызм і ўпеклі за краты на 6 гадоў. Праз тры гады стукнула амністыя і антыфашыста адпусьцілі пад нагляд. Усё было б добра, але куратарам Клаўдыюша прызначылі былога нацыяналіста, адзінай турботай якога было вярнуць хлопца ў турму. Нарэшце яму прадставіўся шанец. Аднойчы на 9 мая Клаўдыюш не стрымаўся, зажаў у пад'езьде першага скіна са свастыкай і прапісаў яму п'яўку. Паліцыя была тут як тут. Зараз антыфашыст зноў на нарах.

Другі выпадак яшчэ больш брутальны. У лютым 1999 рок-музыкант Гжэгаж Хтыстыс сядзеў у клюбе і мірна пацягваў піва. Раптам у дзьвярах зьявіліся арыйскія профілі трох нацыкаў. Натуральна, пачаліся наезды. Гжэгаж з кампаніяй ігнаравалі малпавыя ўжымкі адмарозкаў. Тады фашыкі, зразумеўшы, што тут лавіць няма чаго, пакінулі клюб. Не пасьпелі яны адысьці, як тая самая кампанія нагнала іх у цёмным завулку (антыфашысты вырашылі адпомсьціць уёбкам за сапсаваны вечар). Скінаў пакацілі...

Калі Гжэгаж зь сябрамі вяртаўся ў клюб каб заплаціць за піва, там іх ужо чакала паліцыя. Пацанам далі па году за злоснае хуліганства. Вядома пра сапраўдных зачыншчыкаў бойкі на судзе не было сказана нічога.

Калі Вы салідарныя з польскімі антыфашыстамі Клаўдыюшам і Гжэгажам, пішыце лісты пратэсту да польскай амбасады ў РБ: Менск, вул. тэл.:(017) 213-43-13, факс:

ZEMSKÉ NOVINY

Policie rozprášila anarchisty, skini mohli slavit

*Затрыманьні чэскіх і беларускіх антыфашыстаў падчас скіноўскай акцыі 1 мая 1999 у Празе.*

## УВАГА!!!

Рэдакцыя бюлетэня “Антыфашык” праводзіць рэгулярныя сэмінары па актуальных пытаньнях антыфашызму. Тэмы бліжэйшых сэмінараў – “Гопнікі”, “Музыка і антыфашызм”, “Фашызм і нацыяналізм”, “Камунізм і фашызм”.

Усіх, хто жадае прыняць удзел у згаданых сэмінарах, просім зьвяртацца на адрас рэдакцыі: 220033 Менск, п/с 87

NO PASARAN!

# НЕ ТАРМАЗІ!

# ЕБАНІ!



Кантакт з рэдакцыяй «Антыфашыка»: 220030 Менск, п/с 34



# Агляд антыфашыстоўскае прэсы

## Антыфашык №1(5) 2000

АНТЫФАШЫК



ІНФАРМАЦЫЙНЫ АНТЫФАШЫСТОЎСКІ БЮЛЕТЭНЬ

BELARUSIAN INFORMATION ANTI-FASCIST BULLETIN

№ 1(5),2000

Найбольш вядомы ў нашым горадзе і на нашую думку ў Беларусі бюлетэнь.

Першы нумар за 2000 год пачынаецца з заявы якую трэба б было працытаваць: "Антыфашык – гэта адкрытая асацыяцыя ..."

Актуальнымі, на маю думку, падаюцца навіны з розных куткоў Беларусі, Расеі, розных краінаў Эўропы ды нават Мэксікі.

Укладыш гэтага нумару прысьвечаны агляду самвыдату на Беларусі, прысьвечаны музычнай сцэне. Што цікава, гэты укладыш-разьдел "Антыфашыка" мае сваеасаблівую назву "Партызаны бетонных джунглей" (назва песьні гурта "Hate To State").

Наступныя старонкі газэткі расчыняюць вочы на аўстрыйскую Партыю Свабоды ды яе лідара Ёрга Хайдэра.

Але найбольш вялікім ды зьмястоўным падаецца артыкул-абмяркаваньне камунізму ды фашызму "Камуна-фашызм". Матэрыялы да гэтага артыкулу былі ўзятыя пад час антыфа-семінару, прайшоўшага ў студзені бягучага году ў Менску, прысьвечанага 10 годдзю падзеньня Берлінскага мура "Камунізм і фашызм: спробы параўнаньня".

Перадапошняю старонкаю зьяўляецца артыкул на вельмі спрэчную тэму "Гомасэксуалісты і фашысты", у якім паказанае ўнутранае жыцьцё фашыстаў у Нямеччыне.

Зачыняе нумар, як заўжды, плакат-улётка з антыфашыстоўскім зьместам.

## Тум-балалайка №13

ТУМ БАЛАЛАЙКА

антифашистская газета вольных ежей

N 13

Газэта па вядомасьці стаіць якраз на другім месцы пасьля "Антыфашыка". Адрозьніваецца не толькі большай колькасьцю старонак ды прафесійным падыходам да адказаў на зададзеныя пытаньні.

Асноўная тэма гэтага нумару – "Халакост". "Халакост" – гэта на сёньняшні дзень пашыранае паняцьце, якое ўвасабляе ў сабе не толькі ганеньні на габрэяў, але і на іншыя меншасьці На сёньняшні дзень ахвярамі Халакосту лічацца габрэі, насельніцтва рома/сінці, Сьведкі Іеговы, гомасэксуалісты, асобы з псіхічнымі ды фізічнымі недахопамі, сацыял-дэмакраты, камуністы ды іншыя асобы, якія насілі ў канцентрацыйных лягерах трохкутнікі align=рознага колеру.

Найбольш цікавымі ў гэтым нумары падаюцца артыкулы "Устранение бесполезных" прысьвечаны забойству ў нацыскай Нямеччыне 1000000 псіхічна хворых асобаў, ды палітыцы "расавае гігіены".

Але раскрываецца тэма больш у артыкуле "Убийство памяти", прысьвечаная забойству габрэяў Савецкага Саюзу, падыход да раскрыцьця злачынстваў фашыстаў пасьля Вялікай Айчыннай вайны савецкімі ўладамі, усе "плюсы" ды "мінусы".

Найбольш спрэчным зьяўляецца артыкул "Суперколосс или добро пожаловать в Россию!", які прысьвечаны вядомаму фільму "Сібірскі цырульнік".







**Моладзевы Антыфашыстоўскі Цэнтар** абвяшчае конкурс на лепшы антыфашыстоўскі малюнак "Беларусь без свастыкі". Малюнкі дасылаць на адрас: ***МАЦ, п/с 62, Горадня-3, 230003*** альбо прыносіць штočацьвер і нядзелю ў 19:30 па адрасе : вул.К.Маркса,11 (першы паверх). Малюнкі прымаюцца зробленыя ў любым выглядзе (тушшу,алоўкам, фарбамі ды інш.), могуць быць любога памеру. Пераможцаў чакае шыкоўны прыз !

**Прапануем вашай увазе першыя працы невядомых мастакоў.**

